ДАЙДЖЕСТ

## Авиакатастрофа под Иркутском: авария или теракт?



*Место трагедии под Иркутском.*

Причиной гибели пассажирского самолета Ту-154, разбившегося 3 июля под Иркутском, мог быть взрыв. Об этом сообщили в компании "Владивосток Авиа", которой принадлежал самолет. Эту версию подтверждают показания очевидцев, утверждающих, что самолет взорвался в воздухе. Как известно, в результате катастрофы погибло 144 человека, в том числе 9 членов экипажа.

Глава МЧС России Сергей Шойгу заявил, что катастрофа произошла из-за остановки всех моторов лайнера. Однако начальник управления летной службы Федеральной службы воздушного транспорта Юрий Старшин считает это маловероятным, так как экипаж Ту-154 ничего не сообщал диспетчерам о каких-либо неполадках с двигателями.

Специалисты Межгосударственного авиационного комитета (МАК), руководители которого вошли в состав комиссии, расследующей причины аварии, также считают одновременную остановку всех двигателей маловероятной. По словам сотрудницы МАК Лидии Ангеловой, разбившийся под Иркутском самолет является образцом более поздней модификации Ту-154 — так называемый Ту-154М, у которого вероятность остановки всех трех двигателей была практически исключена.

## На Запорожской АЭС аварийно отключен третий энергоблок

На Запорожской АЭС произошла серьезная авария. На АЭС сработала система защиты, автоматически обесточившая одну из магистральных линий электропередач — запорожскую ЛЭП. В результате в сети возникли перегрузки и на станции начались "цепные" отключения. После этого система защиты перевела третий энергоблок АЭС в автономный режим, разгрузив реакторную установку на 38 процентов.

Спустя почти 4 часа после аварийного отключения третий энергоблок был вновь введен в систему электроснабжения. Расследованием причин аварийных отключений сейчас занимается специально созданная комиссия.

**"ИТАР-ТАСС".**

## Иракский дипломат попросил политического убежища в США

Работающий в ООН иракский дипломат, чье имя и должность пока не разглашаются, попросил политического убежища в США. Дипломат обратился к властиям США еще в пятницу, однако о его побеге стало известно только сейчас. Посол Ирака в ООН Мохаммед аль-Дури сообщил, что в июне закончился срок командировки трех чиновников из состава миссии Ирака при ООН, но от ответа на вопрос, является ли один из них перебежчиком, уклонился.

Тем временем стали известны подробности побега дипломата. Иракский чиновник явился в сопровождении одного из членов своей семьи в полицейский участок Манхэттена и попросил предоставить ему и его семье политическое убежище в США.

## Шведского заложника обменяли на грузовик

Повстанцы племени май-май, выступающие на стороне антиправительственных сил в Демократической республике Конго, освободили удерживавшегося ими шведского заложника. 33-летний Бьорн Рунгстен, находившийся в плену у мятежников полтора месяца, был отпущен на свободу в обмен на подержанный грузовик Volvo.

В скором времени Рунгстен будет переправлен в Уганду, где его ожидают жена и двое сыновей. В плену у племени май-май находятся еще 18 заложников.

**РИА "Новости".**

## Мать-детоубийца из Техаса уверяет, что в нее вселился дьявол



*Андреа Йейтс (справа).*

Жительница Техаса, утопившая в ванне своих пятерых детей, на свидании с родственниками заявила, что в нее вселился дьявол. 36-летняя Андреа Йейтс сказала об этом своим братьям. "Андреа поинтересовалась, были ли похоронены ее дети, и спросила нас, как долго, по нашему мнению, она одержима дьяволом. Она ищет объяснение тому, что сделала", — сообщил один из братьев матери-убийцы.

Йейтс призналась полиции в том, что утопила своих детей одного за другим. Младшему ребенку было 6 месяцев, старшему — 7 лет. По информации обвинителей, вопрос о вынесении смертного приговора для преступницы будет рассматриваться около 3 недель.

**"Вашингтон Таймс".**

## Трибунал не против визита жены к Милошевичу

По заявлению адвокатов Милошевича, Мира Маркович, жена экс-президента Югославии, приедет к мужу, как только получит европейскую визу. Точнее говоря, Голландия сейчас рассматривает возможность допуска Миры Маркович, которая находится в "черном списке" Евросоюза, что, в принципе, блокирует ее приезд в любую из стран сообщества. МИД Голландии получило официальный запрос от Уголовного трибунала ООН на въезд госпожи Маркович. На днях бывший президент Югославии говорил с ней по телефону. По сообщению сербской прессы, Маркович известна на родине под прозвищем "Красная ведьма" из-за пристрастия к мистике и увлечения марксизмом.

Адвокат Милошевича также заявил, что бывшему президенту было отказано в телефонном разговоре с сыном Марко, у которого во вторник был день рождения.

## В Вашингтоне сгорело посольство Эстонии

Пожарные Вашингтона в течение двух часов боролись с пламенем, охватившим посольство Эстонии. Представитель пожарных заявил, что причина возгорания пока неясна, но ущерб зданию, по его словам, причинен серьезный. По сообщению местной телестанции, никто из сотрудников посольства не пострадал, так как огонь вспыхнул после 8 часов вечера.

Полиция во время тушения пожара блокировала Массачусетс-авеню — улицу, прилегающую ко многим иностранным посольствам в Вашингтоне, в то время как около 80 пожарных тушили огонь.

## Профсоюзы голливудских артистов заключили договор с киностудиями

Профсоюзы, объединяющие 135 тыс. американских актеров, достигли соглашения с основными кино- и телевизионными студиями, таким образом завершив переговоры, начавшиеся 15 мая. Гильдия киноактеров США (SAG) и Американская федерация теле- и радиоисполнителей (AFTRA) заключили трехлетний контракт с киноиндустрией, использовав угрозу забастовки актеров в качестве главного козыря. Подробности достигнутых договоренностей будут сообщены позднее, после проведения пресс-конференции. Однако известно, что профсоюзы добивались удовлетворения интересов наименее обеспеченных артистов через повышение минимальной зарплаты исполнителей, а также рост компенсаций за повторные телевизионные демонстрации.

**"Рейтер".**

*Васіль БЫКАЎ*

# ТРУП

## Медыцынскае апавяданьне

*Забойства чыняць усе — ад прыватных асобаў да дзяржаўных секурытатэ. Але для ўсіх застаецца праблема трупа. Адным удаецца яе вырашыць, іншым — не. Во гэта і зьяўляецца прычынай такой цяжкавылечнай хваробы, як мазаічная псіхапатыя.*

*К.Юнг "Briefen", с.247.*



Забойца ня быў прафесіяналам, ня быў і найманым кілерам. То быў звычайны, затурканы жыцьцём чалавек. Тое ж самае можна сказаць і пра забітага — нічога незвычайнага. Зрэшты, і адносіны між імі двума зьнешне былі амаль нармальныя, калі не лічыць даўняй, зацятай, чорнай нянавісьці. Нянавісьці забойцы да ягонай ахвяры. Што стала прычынай таго брутальнага пачуцьця, цяжка сказаць. Пэўна, на тое не адказаў бы і сам забойца. Можа, якія службовыя адносіны, можа, рознасьць характараў, а можа, і жанчына. Тое зусім верагодна — абыдва былі халасьцякі і жылі адзінока. Але, можа, таксама праклятыя баксы, якія ў тую пару шмат для каго сталі мэтай жыцьця. Тым ня менш нянавісьць забойцы была лютая, хоць і старанна схаваная. Нават і ад самога забойцы. Але вядома, што ад самога сябе гэткага пачуцьця нікому схаваць не ўдалося.

Сваю справу забойца зрабіў ціха і хутка — забіты нават не западозрыў таго, што яго могуць забіць. Тым болей здаўна знаёмы чалавек, амаль сябра. Усё ж разам вучыліся, разам працавалі. Раней нават былі ў сяброўстве. Тады пра забойства і ня думаў. Але во — давялося.

Усё адбылося на лецішчы. Забойца запрасіў сябра на чарку, яны выпілі, закусілі, чым Бог паслаў. І забойца стрэліў ахвяры ў патыліцу. Час быў асеньні, блізка на лецішчы нікога не было, ягонага стрэлу з старога невялічкага браўнінга ніхто не пачуў. Як сьцямнелася, забойца вывез труп на тачцы ў канец пасёлка, куды скідвалі розны друз, і закідаў яго сьмецьцем. Забіты блізкіх родзічаў у горадзе ня меў, ніхто яго хутка шукаць ня будзе.

Таго вечару крыху пазьней, чым звычайна, забойца пайшоў на электрычку і паехаў у горад. Якраз пачаў церушыць дробны сьняжок, і забойца думаў: во і добра, ён зацярушыць сьляды забойства.

Тае начы ён спаў, можа, лепш за ўсе ранейшыя часы, калі яму дапякала нянавісьць. Цяпер нянавісьць зьнікла, і ён з палёгкай адчуў, што вызваліўся ад шматгадовага гнёту. Дзякаваць Богу. Сны яму тае начы сьніліся сьветлыя і лёгкія — луг, кветкі, сонца...

Ранкам, аднак, як ён зьбіраўся ў краму па кефір і цыгарэты, у кішані плашча намацаў пісталет. Добра ж памятаў, што кінуў яго ў сьметнік, да трупа. Аказалася — не. То быў ягоны браўнінг, ад якога яшчэ сьмярдзела порахам стрэлу.

Счакаўшы яшчэ гадзіну, забойца пайшоў на электрычку. Трэба было паглядзець дакладна, што ён там зрабіў учора. Можа, засталіся сьляды. Вядома ж, сьляды належала старанна прыбраць.

Найперш ён скіраваў збоч пасёлка да сьметніку. Куча разнастайнага сьмецьця там выглядала гэтаксама, як і ўчора, ніхто быццам яе не кратаў. Цяпер ён кінуў туды і пісталет. Трохі супакоены пайшоў да свайго лецішча. Але ўжо адчыняючы дзьверы, адчуў трывожлівы неспакой, бы тут хтось быў. А як увайшоў у пакой, ледзь не самлеў — на тым самым крэсьле, што і ўчора, сядзеў забіты. Не, ён ня быў жывы — ён пэўна ж быў мёртвы, з запечанай на патыліцы крывёй ад кулі. Як забойца дакрануўся да яго, дык ён з ціхім стукам бокам зваліўся на падлогу. Зь ім разам ад страху ледзьве не зваліўся забойца.

Што было рабіць далей, забойца ня ведаў. Колькі часу ён, скуты жахам, сядзеў на канапе. Добра, што блізка нікога не было, ніхто да яго не пастукаў. Як у пасёлку сьцямнелася, ён пагрузіў труп у тачку і бакавымі сьцежкамі павёз да возера — утапіць. Ужо з вады ня выберацца. Каб ямчэй утапіўся, забойца паклаў труп у мех, наклаў яшчэ камянёў з недалёкай будоўлі, мех завязаў алюмініевым дротам. Ужо так не павінны ўсплысьці.

Зноў ніхто яму не спаткаўся. У шэрых прыцемках раньняга вечару ён укінуў у ваду свой цяжкаваты мех, а разам і тачку. Хай прападае... На лецішча ўжо не пайшоў — пайшоў напрасткі да электрычкі і паехаў у горад.

У кватэры было ціха і спакойна, але на душы — дужа кепска. Усё ж, мусіць, нячаста здараецца, каб труп ажывеў і прыйшоў на месца забойства. Іншая справа — забойца, якога, кажуць, заўсягды цягне на тое самае мейсца. Ці ён меў справу зь незвычайным чалавекам? Зь якім ваўкалакам, чарадзеем, цмокам?

Гэтае начы сны ў забойцы былі цяжкія, трывожныя. Ён ня мог выбрацца зь нейкага балота і да ранку цялёпаўся ў соннае багне. Задоўга да сьвітаньня, з палёгкай прачнуўся, сьцяміўшы, што ўсё тое — сон. Але і ява ня стала лягчэйшаю. Труп яго прыгнятаў, трывожыў, маркоціў і пагражаў. Трохі супакойвала возера, глыбокая вада. Зранку браўся марозік, трава на падворку ляжала ў шэрані. Возера, пэўна, замерзла. Ужо з-пад лёду наўрад ці магчыма выбрацца. Нават жывы, а ня толькі зь дзіркай у патыліцы, сумна цешыў сябе забойца.

Два дні ён ня езьдзіў на лецішча, ня мог нават думаць пра яго. Увечары спрабаваў уключыць тэлевізар, але хутка выключыў. Паказвалі вайну ў Чачэніі і там гэткія самыя трупы. Шмат трупаў. Мабыць, як і кожны забойца, трупаў ён проста ня мог бачыць. Ды ўсё бачылася, як ён ляжыць там пад вадой у мутнай вадзе, а побач плаваюць рыбкі... На трэці дзень не стрываў, паехаў да возера.

Возера зь берагоў узялося маладым лядком, праз які нічога не было бачна. Бераг скрозь быў пусты. І тое крыху супакоіла забойцу. Што ж, думаў ён, мабыць, справа ўрэшце зроблена. Можна было і расслабіцца.

І праўда, трохі супакоены ён заехаў на лецішча, зазірнуў у пакой — ля стала нікога не было. Пуста было і на кухні. Яшчэ болей супакоены, амаль узрадаваны вярнуўся ў горад. Той вечар упершыню за колькі дзён добра павячэраў і нават кульнуў чарачку каньяку. Мабыць, ён неяк выкручваўся з свае нечаканай нявыкруткі. Забіў — і канцы ў ваду, як сьведчыць прымаўка. Усё ж трапная яна — народная мудрасьць.

Уначы яму нічога ня сьнілася, значыць, спаў добра. А назаўтра вырашыў, што трэба зьездзіць у замежжа, трохі праветрыцца на дэмакратычным ветры. А то надта ўжо сьмярдзела ў гэтай краіне таталітарызмам. Баксаў у яго трохі назьбіралася — намяняў з часу дэфолту. Зноў жа за гэтыя дні ён дужа натузаўся з гэтага клопату, і цяпер з задавальненьнем займаўся іншым: набываў білет, доўга стаяў у чарзе ў консулаце, запаўняў анкеты. Нават адчуў прыемнасьць, што сярод мноства пытаньняў у выязной анкеце не было пытаньня пра забойства, а то б давялося адмовіцца ад паездкі. А так усё — а-кей! Ужо ў прыцемку амаль шчасьлівы і супакоены прыцягнуўся дадому, падняўся на свой шосты паверх. І аслупянеў. Ногі яго падамлелі, і ён, каб ня ўпасьці, ухапіўся за сьцяну. Пад абабітымі дэрманцінам дзьвярыма стаяў знаёмы, завязаны белым дротам мех.

Сьпярша забойца хацеў уцячы, але куды ўцячэш ад уласнай кватэры? Зноў жа, можа, мех ужо бачылі суседзі? Якраз у той час з суседняй кватэры выглянуў стары пэнсіянэр, і забойца папытаўся: хто прынёс той мех? Ды пэнсіянэр ня бачыў нічога. Але сказаў, што калі стаіць пад ягонымі дзьвярыма, дык, мабыць жа, належыць яму, так зразумеў пэнсіянэр. Што ж, зразумеў правільна, падумаў забойца. Каб ты прапаў са сваёй кемлівасьцю...

Што было рабіць, апроч як уцягнуць мех у кватэру. Там ён нават не спрабаваў яго развязваць — ён ужо ўяўляў, што там можна было ўбачыць. Пасьля забойства мінула дзён дзесяць часу. Праўда, у возеры, мабыць, як у лядоўні, але ж... Добра, што яшчэ не сьмярдзела.

Ледзьве дачакаўшыся наступнага дня, ён выскачыў з кватэры, як сьлед нават не сабраўшыся ў дарогу (забыўся ўзяць брытву, зубную шчотку). Паехаў на вакзал. Ён ужо наважыўся не вяртацца ў гэты горад і нават у гэтую краіну — прасіць палітычнага прытулку на Захадзе. Бо ўрэшце ж, мусіць, ягоны труп знойдуць, што тады будзе? Пракурорская справа, следчыя па асабліва важных злачынствах, патрабаваньне экстрадыцыі... Жах, што яго можа чакаць наперадзе. Але іншага паратунку цяпер ён ня бачыў.

Абы толькі выбавіцца з краіны.

У вагоне з новымі трохпавярховымі купэ было даволі свабодна — бо не сезон ды і накірунак гэты ня дужа папулярны для паездак з усходу. Забойца як заняў сваё мейсца, так і сядзеў пры століку, пакуль не заламіла ў паясьніцы. Але во мяжа — і пачалося: то дэклярацыі, то пашпарты. У купэ прыйшоў пажылы мытнік: ці ўся валюта ўказаная ў дэкляроцыі? Уся, сказаў забойца, падумаўшы, так я вам і скажу праўду. За ім расчыніў дзьверы задзірысты малады прапаршчык: прашу пашпарт і выйдзіце ў калідор. Ён выйшаў, стаў ля вакна, і тут жа з купэ прагучала пытаньне: чый труп? — Які труп? — Хто яшчэ з вамі едзе? — Ніхто быццам. — Значыць, труп ваш? — Не, ня мой, — схлусіў белы, бы палатніна забойца.

Памежнік выклікаў па радыётэлефоне падмогу, зьявілася аж чалавек пяць. І сярод іх адзін таўсты і, мабыць, як усе таўстыя, дабрадушны дзядзька ў пагонах. Забойца падумаў, што зараз на яго надзенуць кайданкі, а яны ўладкаваліся ў купэ запаўняць нейкія бланкі. А як запоўнілі ў трох экземплярах, таўсты сказаў: з вас семнаццаць баксаў у эквіваленце. Забойца ня стаў ні пытацца, ні аспрэчваць — аддаў ім семнаццаць даляраў, і яны вымеліся. Пасьля зазірнуў у паперку — то аказаўся сертыфікат трупа пад нумарам 000653. Забойца ня ведаў, што рабіць далей. На стале ляжаў сертыфікат, а ў багажнай скрыні пад ім — ягоны мех з трупам. Ці гэты мех належала цяпер прад'явіць пры ўезьдзе (як, скажам, залаты гадзіньнік), ці чакаць арышту? І ён падумаў, што лепей за ўсё труп выкінуць ноччу. Ужо тут, мабыць, яго ня знойдуць. Тут замежжа, і мяжа на замку.

Так ён і зрабіў. Недзе пад самы глухі час начы, як усе ў вагоне паснулі, забойца вывалак труп у тамбур і, адчыніўшы вагонныя дзьверы, даў таму злоснага высьпятку. Мясьціна якраз аказалася пустэльнай — хвойкі, лясок, і ягоны труп зьнік у цемрыве ночы.

Астатні адрэзак шляху мінуў без прыгодаў. Забойца нават трохі заснуў пад ранак. А ранкам прачнуўся ўжо на іншай зямлі зь яе прывабнымі для душы капкантрастамі. Але забойца нядоўга хадзіў па вуліцах, шыкоўныя вітрыны і людзі пачалі яго раздражняць, і ён пайшоў у гатэль — першы, які трапіўся яму на вочы. Атрымаўшы ключ, адразу зашыўся ў цесным нумарку, выцяг з сумкі бутэльку "Сталічнай" і з насалодай аддаўся адзіноце. Найперш прыняў душ, разабраў пасьцелю і ўключыў тэлевізар. Ды яшчэ ня выбраў, на якім канале спыніцца, як зазваніў тэлефон. Парцье штось яму гаманіў на незразумелай мове тубыльцаў, але ён сьцяміў, што хтосьці да яго мае справу.

Забойца таропка пачаў нацягваць на сябе нагавіцы, і якраз у той час у дзьверы пастукалі. Як ён адчыніў, найперш убачыў перад сабой двух служыцеляў у форменных фуражках, якія ўкацілі ў нумар лёгкую цялежку, — на цялежцы ляжала невялікая плястыкавая труна прыгожага вішнёвага колеру. Забойца, як быў у нагавіцах, так і апусьціўся на мяккі ворс долу. Тое, аднак, не зрабіла ніякага ўражаньня на мулатаў-служыцеляў, якія тыцкалі яму пад нос стос папераў і штосьці талдычылі. На верхняй паперчыне у самым нізе значыўся нейкі таталь — 1875 даляраў. У абсалютным узрушэньні ён выцяг з сумкі дваццаць соценных асігнацыяў, і радасныя служыцелі зьніклі. А ён застаўся адзін на адзін з шыкоўнаю плястыкавай дамавінай і няўцямна сядзеў у ложку. Ён не адважваўся нават адшчапіць яе бліскучых зашчэпак, ужо ня меў сілы. Апроч іншага пачала палохаць праблема грошай, столькі адваліць баксаў — за што? Ды забіты і жыўцом столькі ня быў варты — гэты хворы, бяззубы пэнсіянэр. А тут амаль дзьве тысячы баксаў, па беларускім курсе — больш за мільён рублёў. Ён палічыў тое, што засталося ў кашальку, — ці хопіць хоць на білет дадому. Заставацца ў гэтай краіне абдзіралаў яму ўжо расхацелася, і ён з замілаваньнем прыпамятаў айчынных памежнікаў, якія ўзялі за труп па-боску. І нават выдалі сертыфікат. А гэтыя што — мерсі, данке, цэнк'ю...

Не, трэба ўцякаць дадому. Тым болей, калі гэтую надаедутруп пакінуць у гатэлі. Разьлічыцца за нумар у яго ўжо не было чым. З улікам тых, што прывёз у нагавіцах, добра калі наберацца на чыгуначны білет. Пакінуўшы ў гатэлі сумку, ён леным крокам, быццам на шпацырак, утуліўшы галаву ў каўнер, прайшоў паўз парцье і адразу скіраваў на вакзал.

З мейсцамі ў цягніку праблемаў ня было. Хоць на той раз дамоў ехала болей і купэ было цесна застаўлена хатулямі. І ён парадаваўся, што для трупа тут проста не было мейсца. Калі што — хай падкладваюць куды ў іншае купэ ці нават у другі цягнік — ён у прэтэнзіі ня будзе. Добра, што ў гатэлі, запісваючы сваё імя, ён прадбачліва ўтаіў грамадзянства, напісаў — харват. Так, на ўсякі выпадак. Усё ж ён быў патрыёт, і калі што якое — не хацеў ганьбіць дзяржаву. Хай цяпер шукаюць забойцу ў Харватыі, мабыць, там іх хапае.

На межах таксама асаблівых праблемаў ня сталася. Сертыфікату ён не паказваў і таго ніхто не патрабаваў. Можа, пра труп памежнікі забыліся, ці ня ўнесьлі ў кампутар, або ўнесьлі ды ня ў той кампутар. А той, можа, скралі апазыцыянеры ці прапілі ўпёртыя прапаршчыкі. Забойца павесялеў. Ён нават перастаў адчуваць сябе забойцам — адчуваў нароўні з усімі. У канцы дарогі нават паспрачаўся з маладым суседам, хто горшы — Гарбачоў, што развалію партыю, ці Ельцын, што развалію Саюз. Сышліся на тым, што Лука — самы адпаведны. Тут забойца змоўчаў — то была слізкая для яго тэма.

З вакзалу ішоў улегцы і пехатой — грошай не было нават на метро. Але во і яго дом, трэці пад'езд. З хваляваньнем, поўным мілага пачуцьця, прыехаў на ліфце на свой шосты паверх.

Нейкая дзіўная нечаканка сталася з замкамі — ня мог адчыніць. Спрабаваў і адным ключом, і другім, калі сьцяміў, што дзьверы зачынены знутры. Тады ж спалохаўся і пазваніў. І зноў, як у гатэлі, ледзьве не ўпаў на падлогу — перад ім у паўзмроку расчыненых дзьвярэй стаяў яго труп. Цёмны, скурчаны, бы ссохлы і зьменшаны ў памерах, але пэўна знаёмы яго забіты.

— Ты што? — толькі і здолеў выціснуць з сябе забойца.

— Ды нішто. Цяпер будзем удвох, — нейкім скрыпучым, бы грамафонным голасам вымавіў труп. — Назаўжды.

— Дык жа нязручна! — крыўдліва прасіпеў забойца.

— Што зробіш! — адказаў труп. — Затое разам...

Што ж, падумаў забойца. Мабыць, нічога ўжо ня зробіш. Прыйдзецца жыць з трупам. Калі не схацеў з жывым...

ДУХОЎНЫ СКАРБ

## 12 патрыётаў з сярэдняй школы №191

Сёлета паспяхова закончылі вучобу ў СШ №191 г.Мінска 12 хлопчыкаў з роднамоўнага класа, у якім да пераезду з мікрараёна "Уручча" ў "Маліпаўку" вучыўся і мой сын Цімур.

Гэтыя вучні дастойна прайшлі праз усе выпрабаванні. За сваё права набываць веды на роднай мове яны актыўна змагаліся, пасылаючы трывожныя лісты ў прэсу, калі паўстала пагроза закрыцця класа, выходзілі з патрабаваннямі ў пікеты.

Безумоўна, поспехі былі б значна меншымі, калі б дзяцей не падтрымлівалі іх бацькі, настаўнікі. Асаблівай павагі тут зслугоўваюць першая настаўніца Ларыса Гаравая і класны кіраўнік Валянціна Бабінская. Дзякуючы рупнасці Ларысы Фёдараўны, школа набыла тэатральны ўхіл. Спрыяе беларускасці і дырэктар Галіна Голяш, беларусавед па адукацыі. Хаця, на нашу думку, з такім цудоўным патэнцыялам школа магла б набіраць беларускія класы. Як паказвае практыка, у іншых школах Мінска пры большай стараннасці і разваротлівасці педагагічнага калектыву некаторыя набіраюць першакласнікаў толькі на роднамоўнае навучанне. Гэта навучальна-выхаваўчыя ўстановы №№2, 60, 68, 72, 89, 190, гімназіі №№4, 9, 111. Надзеі ўскладваем мы і на СШ №№1, 11, 15, 23, 37, 84, 86, 108, 110, 131, 210, ліцэй №26 ды іншыя.

Цяпер мы радуемся за поспехі самага маленькага і самага здаровага класа ў СШ №191. З 12 выпускнікоў чатыры закончылі з залатым медалём і адзін з сярэбраным. Дыктоўку па-беларуску амаль усе 11 напісалі на "выдатна"! З гэтай нагоды Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай школы" і павіншавала выпускнікоў, іх бацькоў і педагогаў і ганаравала дыплом за рашучасць і прынцыповасць у адстайванні беларускамоўнага навучання і поспехі ў вучобе. Прыемна адзначыць, што падобны ганаровы ліст атрымалі лепшыя беларускія вясковыя школы, а таксама 13 сталічных адукацыйных устаноў.

**Алесь ЛОЗКА,**
**прэзідэнт Рэспубліканскага грамадзянскага аб'яднання "Таварыства беларускай школы".**

РЭГІЁН

## У Крычаве не жадаюць галасаваць за Лукашэнку

Такую выснову можна зрабіць, калі прааналізаваць вынікі апошняга апытання грамадскай думкі ў горадзе Крычаве, праведзенага напрыканцы чэрвеня актывістамі сацыялагічнай лабараторыі "Позірк", што дзейнічае пры грамадскім аб'яднанні "Кантакт-цэнтр". У апытанні ўзялі ўдзел 138 дарослых крычаўцаў.

Адказваючы на пытанні спецыяльна распрацаваных анкет, толькі крыху больша за 50% жыхароў горада зазначылі, што збіраюцца браць удзел у асеннім галасаванні.

На пытанне "Ці верыце Вы, што выбары прэзідэнта пройдуць сумленна, без падтасовак і махінацый з боку ўлад?" адмоўна адказалі больш за 60% апытаных. А ў "чэсныя" выбары вераць толькі 12% апытаных.

На пытанне "Калі б выбары праходзілі сёння, каму з кандыдатаў Вы б аддалі свой голас?", крычаўцы адказалі наступным чынам: за кандыдата ад апазіцыі — 14,5%, за незалежнага кандыдата — 21%, за дзеючага прэзідэнта — 11,6%, нікому — 19,6%, не вызначыліся з выбарам — 33,3% апытаных.

Згодна з рэзультатамі праведзенага апытання, можна зрабіць вывад, што цяперашняму прэзідэнту будзе цяжка дамагчыся сумленнай перамогі ў асобна ўзятым Крычаве.

## Краіна баскаў — Клімавічы

Трэці год працягваецца супрацоўніцтва ў сацыяльнай галіне іспанскага горада Басауры і нашых Клімавічаў. Днямі замежнікі прыязджалі ў райцэнтр, каб падпісаць з мясцовым выканкамам адпаведную дамову. Трэба адзначыць, што Басауры месціцца ў так званай Краіне баскаў, на поўначы Пірэнейскага паўвострава.

Летась заморскія госці падаравалі Клімавічам аўтобус, на якім прывезлі ложкі і медыкаменты для райбальніцы, школьныя прыналежнасці. Акрамя таго, штогод вялікая колькасць беларускіх дзетак адпачывае ў сонечнай Іспаніі, раз-пораз прыбываюць да нас гуманітарныя грузы.

Не абыходзілася і без недарэчнасцяў. Восенню мінулага года гуманітарны груз для Клімавічаў, які быў накіраваны самалётам у Маскву, так і не ўдалося атрымаць у аэрапорце "Шарамецьева-2". Расійскія сябры папросту адмовіліся яго аддаваць.

Аказалася, што баскі не толькі непакорлівы і "выбуханебяспечны" народ, але і добразычлівыя, чулыя людзі, гатовыя дапамагчы тым, хто церпіць нястачу.

**Андрэй КУЗЬМІН.**
г.Крычаў.

## У Хоронеко появился соперник?



*Вячеслав Хоронеко.*

**Фото IREX/ProMedia.**

В день празднования Дня независимости в минском парке имени Горького прошел Международный марафон по поднятию гири нетрадиционным способом. Несколько силачей из России, Украины и Беларуси изъявили желание установить сразу пять мировых рекордов. До начала соревнований их было 24, одним из самых впечатляющих и, по мнению специалистов, сложных и трудных признавался результат минского богатыря Вячеслава Хоронеко: в толчке 32-килограммовой гири от груди попеременно левой и правой рукой за 2 часа — 1480 раз! Установленный, кстати, ровно два года назад также на празднике Независимости Беларуси.

На этот раз на достижение Хоронеко покушался еще один житель столицы Сергей Мацкевич и, как оказалось, успешно! Молодой соперник Вячеслава поднял и без того высокую планку — 1510 подъемов! Что в сумме составило 48 тонн 320 кг. Невероятно!

Пытался оспорить лидерство белорусского капитана милиции и профессиональный российский спортсмен Сергей Климин, но в другой номинации — толчке гири весом в 16 кг произвольно левой и правой рукой от груди за час. Увы, попытка гостя оказалась неудачной, и до искомой цифры 2598 он не добрал очень много.

Сам же автор 100 необычных рекордов по поднятию тяжестей различным способом за разное (от 1 минуты до 36 часов ) количество времени 40-летний Вячеслав Хоронеко больше, как он сообщил, идти на установление новых достижений пока не намерен. Сейчас он выступает, по непроверенным данным, в шоу-программе за рубежом.

Шел на побитие одного из своих многочисленных достижений и "король рывка" наш земляк Сергей Трифонов, но ему не хватило самой малости. Зарубежные гости все же реабилитировали свою "мужскую" неудачу блистательным выступлением украинских девушек. Оксана Роман и Татьяна Дорогий стали первыми авторами в таблице мировых рекордов в женских номинациях. Гиревички из Беларуси в марафоне замечены не были.

**Владимир ДОВЖЕНКО.**

# "Мама, чаму мы так доўга чакаем?"

Уключыўшы ў нядзелю 1 ліпеня канал беларускага тэлебачання з перадачай Зімоўскага "Рэзананс", нават не сумнявалася ў тым, што першае, пра што пачую, гэта тое, як клапоціцца Лукашэнка пра здароў'е хворых дзяцей, якія знаходзяцца ў кардыялагічным аддзяленні Дзіцячага хірургічнага цэнтра. Але чаму ж вы, спадар Зімоўскі, не паведамілі сваім гледачам пра тое, што ў дзень візіту Лукашэнкі прыёмны пакой Цэнтра не прымаў ніводнага хворага дзіцяці з раніцы да 15 гадзін? Можа, гэта ўсё таксама з-за турботы аб хворых, таму тыя, хто меў патрэбу ў дапамозе менавіта ў гэты час і ў гэтым Цэнтры, вымушаны былі марнець і чакаць, калі прыёмны пакой Цэнтра пачне працаваць у звычайным рэжыме.

Шкада толькі, што бяда час і месца не выбірае. Мая дзесяцігадовая дачка звалілася з гушкалак, напярэдадні дабрачыннай акцыі "Дакраніся да сэрца дзіцяці", не ў Мінску, а ў 150 км ад яго, у вёсцы. Выклікаўшы там "хуткую дапамогу" ўвечары, дачакаліся яе толькі праз 4 гадзіны, ноччу. Дачцэ было дрэнна дыхаць і гаварыць, балела ў грудзях. Мясцовыя лекары зрабілі ёй традыцыйны ўкол супраць болю, без здымкаў грудной клеткі паставілі дыягназ: пашкодзіла мускулу. І мы паспяшаліся ў сталіцу.

У прыёмным пакоі Навукова-даследчага інстытута траўматалогіі і артапедыі дзяжурны ўрач, пачуўшы, што нас турбуе, вельмі быў здзіўлены. Ён сказаў, што мы павінны ехаць у хірургічны цэнтр. Але патэлефанаваўшы некуды, дзе адказалі, што хворых там будуць прымаць толькі пасля 15 гадзін, зрабіў усё, што было ў яго кампетэнцыі. Поўны медыцынскі агляд паказаў, што ў дзяўчынкі зломана грудная клетка. Шпіталізаваць у НДІ не было магчымасці, па-першае, што з такім дыягназам там не лечаць, па-другое, у дзіцячым аддзяленні быў каранцін. Таму нам прапанавалі чакаць у прыёмным пакоі, пакуль не прыйдзе той час, калі можна будзе перавезці нас у Дзіцячы цэнтр. Чакаць прыйшлося доўга. Маё стомленае, хворае дзіця час ад часу задавала адно і тое пытанне: "Мама, чаму так доўга мы чакаем?". Складана было тлумачыць, што так прэзідэнт Лукашэнка паклапаціўся пра яе сэрца. Тыя, хто прысутнічаў пры гэтым, абураліся такому загаду і спачувалі хвораму дзіцяці.

У Дзіцячым хірургічным цэнтры я таксама не знайшла задаволеных візітам Лукашэнкі. Толькі ў перадачы Зімоўскага ён выглядаў такім клапатлівым чалавекам, якога хвалюе кожны грамадзянін нашай краіны. Усё гэта хлусня, сапраўды яму патрэбна толькі затрымацца на пасадзе прэзідэнта любымі сродкамі.

**Марына ЛЕВАЦЕНКА.**
**Мінск.**

